ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 1(5183)
Чацвер, 4 студзеня 2001 года

Кошт у розніцу — 45 руб.

Запрашэнне да дыскусіі

## Педагагічны стэрэатып: сіла ці слабасць?

***Падставай да гэтага роздуму паслужыў фрагмент размовы ў настаўніцкай: педагогі гаварылі аб тым, як усё вакол змянілася за апошнія гады, прыводзілі пераканаўчыя доказы, ужывалі дзеясловы "развалілася", "прапала", "трансфармавалася", "пагоршылася" і г.д. Адна ж настаўніца з пачуццём гонару і задавальнення гучна прамовіла: "Усё мяняецца, і толькі школа стаіць і працягвае сваю дзейнасць. Усё, як заўсёды, і добра, што — як заўсёды!"***

НЕЛЬГА не пагадзіцца, што школа — астравок стабільнасці (не памятаю, чые словы): дзеці вучацца, педагогі робяць сваю справу, і нішто, здаецца, не парушае гэты шматгадовы парадак. Такое пастаянства надае нам адчуванне ўстойлівасці, надзейнасці і, напэўна, бяспекі: няма парушэнняў, змяненняў у гэтай частцы нашага жыцця. Але побач з пачуццём задавальнення з нагоды стабільнасці закрадваецца сумненне, прабіваецца расчараванне: калі так істотна змяніліся сацыяльна-эканамічныя, палітычныя адносіны, каштоўнасныя арыентацыі, жыццёвая філасофія грамадства, ці можа быць вартасцю нязменлівасць школьнага жыцця, адносін, парадку? Калі ўсё гэта не мяняецца, то ці не ўзмацняе такое становішча яшчэ больш канфлікт паміж настаўнікамі і вучнямі?

Даволі часта чую фразу: "Школа вучыць аднаму (маецца на ўвазе — добраму), а жыццё — яно іншае!" Аднойчы пачула на семінары ад адной настаўніцы: "Сустрэла свайго былога вучня, цяпер ён вучыцца ў ВНУ. І ён мне прама: "Не таму вы нас вучылі!" Відаць, такі вынік настаўніцу засмуціў. Гэта рэпліка маладога чалавека, прадчуваю, раздзяліла чытачоў на тых, хто пачне даказваць, што школа змянілася, а значыць наблізілася да жыцця, і на тых, хто будзе адстойваць тэзіс, што не трэба спяшацца са змяненнямі. Аргументы і ў таго, і ў другога боку, пераканана, будуць моцныя.

Мне хочацца задаць тэму разважання такую — педагагічныя стэрэатыпы: іх сіла і слабасць.

Педагагічная дзейнасць мае свае прафесіянальныя алгарытмы, нормы, правілы, патрабаванні. І гэта, з аднаго боку, забяспечвае паспяховую адаптацыю да прафесіі і развіццё прафесіянальнай ідэнтычнасці. Але нельга не гаварыць і аб неспрыяльным уплыве іх на асобу настаўніка. Усякае нарміраванне (а ў школе бясконцыя нормы — ведаў, уменняў і многага іншага) прыводзіць да развіцця рыгіднасці мыслення, а затым і паводзін.

Штодзённае на працягу многіх год рашэнне тыпавых задач, перадача гатовых узораў і доследаў, рэпрадуктыўны ўзровень выканання дзеянняў і аперацый прыводзіць да таго, што настаўнікі нярэдка не толькі не садзейнічаюць творчаму развіццю сваіх вучняў, але і самі становяцца неўспрымальнымі да новага, нестандартнага. Тады мы гаворым аб такім псіхалагічным феномене як педагагічныя стэрыатыпы, якія вызначаюцца як устойлівыя вобразы ці ўяўленні аб якой-небудзь з'яве, людзях, падзеях, уласцівыя прадстаўнікам той ці іншай сацыяльнай групы. Стэрэатыпы — непазбежная частка нашага жыцця, неабходны і карысны інструмент сацыяльнага пазнання свету. Але яны набываюць разбуральную здольнасць, калі мы не ўлічваем, што сацыяльная сітуацыя мяняецца значна хутчэй, чым сфарміраваныя ёю стэрэатыпы. Разбуральную таму, што, захоўваючыся ў новых умовах, абставінах, пераносімыя ў іншыя жыццёвыя сітуацыі, яны выступаюць у якасці перашкоды новаму, іх захаванне (утрыманне) патрабуе часам праяўлення сілы, жорсткасці.

Сітуацыя з навучаннем шасцігодак. Тое, што адбываецца, не ўваходзіла ў задачы рэформы. Але настаўнікі задаюць урокі, выстаўляюць (няхай хітрыя) адзнакі, трэніруюць бацькоў, як навучаць сваіх дзяцей, рабіць з імі дамашнія заданні і г.д. і ўсё гэта робяць з добрым намерам — дзеці будуць лепш вучыцца. Што тут адбываецца? Навучанне павінна будавацца з улікам псіхалогіі дзяцей, іх індывідуальнага тэмпу развіцця, але тады трэба інакш вучыць. Педагогі ж пераносілі ў новыя ўмовы прывычныя ім, здабытыя шматгадовай працай, формы работы і навучання, узаемадзеяння з бацькамі. Спрацоўвае шмат стэрэатыпаў адразу: "настаўнік ведае, што лепш для дзяцей", "нельга без адзнак", "як жа без дамашніх заданняў?" Калі вучань — то павінна быць і дамашняе заданне, і г.д., і да т.п. Я, як псіхолаг, сутыкаюся з вынікамі падобных адносін: ужо ў другім класе ў дзяцей наступае стомленасць, яны выкідваюць са сваёй свядомасці, сістэмы каштоўнасцей многае, звязанае са школьным жыццём. У бацькоў — панічны стан: дзеці не хочуць вучыцца, хадзіць у школу, іх інтарэсы ляжаць па-за школай.

Стэрэатып "настаўнік заўсёды праў". І колькі негатыўных вынікаў для развіцця і самога настаўніка, і яго вучняў! Ён перашкаджае паяўленню іншых пунктаў гледжання, пазіцый, спосабаў вырашэння, выхадаў з сітуацый і г.д. А значыць, няма шматгалосся, няма альтэрнатыў, сітуацый выбару, няма дэбатаў і дыскусій. Настаўнік, як і любы чалавек, памыляецца, зрываецца, сумняваецца і г.д. і мае права ў гэтым прызнацца. Давайце пагодзімся, часта бываюць правы і нашы дзеці. Успомнім, вядомы псіхолаг Ш.А.Аманашвілі рэкамендаваў педагогам спецыяльна рабіць памылкі, каб вучні знаходзілі іх і перажывалі пачуццё задавальнення, радасці ад знойдзенай памылкі, якую "зрабіў" настаўнік. І не пахіснецца настаўніцкі прэстыж ад удачы яго вучняў!

І зноў усплывае ў памяці сітуацыя. Настаўніца ў гарачцы абазвала вучня-падлетка, і ён, не стрымаўшыся, адказаў грубасцю. Настаўніцкаму абурэнню не было мяжы, высокай была і ступень педагагічнай салідарнасці настаўнікаў. Калі ж разбор гэтага выпадку паказаў, што настаўніца справакавала канфлікт, а значыць ёй і рабіць першы крок да яго вырашэння, у якасці псіхалагічнай абароны спрацаваў стэрэатып: "Я буду прасіць прабачэння? Ды я 35 гадоў у школе, і ніколі гэтага не рабіла!" Як бачым, узрост, стаж работы, права старэйшага выкарыстаць уладу над малодшым не дазволілі настаўніцы аб'ектыўна ацаніць становішча. Але ж стаж не толькі вартасць. Як і ў любой іншай сітуацыі, ён мае і свой негатыўны бок: з гадамі мы ўсё цяжэй мяняем свае правілы, устаноўкі, прынцыпы, хаця кожнае новае пакаленне вучняў адрозніваецца ад папярэдняга. Гаворка не аб тым, каб, навучаючы новае пакаленне, педагогі поўнасцю перагледалі свае педагагічныя пазіцыі, патрабаванні, але частку з іх — несумненна. Сённяшняе пакаленне, на маю думку, вельмі адчувальнае да ўсяго, што звязана з паняццем "асоба", з адносінамі да сябе, таму чакае ад педагогаў павагі, разумення, спачування, справядлівасці і г.д. Але калі настаўніца захоўвае такі стыль адносін, які яна выказала ў фразе: "Мне ўсё роўна, як яны да мяне адносяцца і чаго хочуць, мне трэба, каб яны ведалі мой прадмет", то такая настаўніца асуджана на непавагу, непрыманне, адхіленне.

Часта чую: "Што навука? Важна практыка! Навука нам мала дапамагае!" Такі стэрэатып не дазваляе стаць добрым, творчым педагогам. Настаўнік застаецца простым рамеснікам. Можна не звяртацца да літаратуры, перыядычнага друку, можна гаварыць, што курсы мала што даюць. Але ж курсы не даюць, на іх кожны сам бярэ тое, што яму патрэбна, чаго не хапае.

Назаву іншыя стэрэатыпы, не каменціруючы, якія ёсць у школьнай практыцы:

— Рабіце, як я сказала, больш ад вас нічога не патрабуецца!

— Я яго караю (стаўлю двойкі), каб вучыў!

— Бацькі — дрэнныя выхавацелі;

— Калі ў цябе былі тройкі, то сённяшняя "4" ("5") — вынік спісвання;

— Якія бацькі — такія і дзеці;

— Я вучыла старэйшага, значыць і ад малодшага няма чаго чакаць;

— Не разумееш — трэба дома працаваць добра!

— Будзь як усе — і табе, і нам будзе лягчэй! і г.д.

Нельга не звярнуць увагі на абсалютызацыю ацэнь-

(Працяг на 2-й стар.)



28 снежня ў Палацы Рэспублікі адбылося навагодняе свята для дзяцей Беларусі. Тут прысутнічалі дзве тысячы дзяцей. Іх павіншаваў з надыходам Новага года і новага стагоддзя Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА.**

Актуальнае інтэрв'ю

Аляксандр КУПЦОЎ:

## "У школах павінна быць цёпла"

***Часам расійскае тэлебачанне, расказваючы пра школы ў глыбінцы, даносіць да нашага гледача жахлівыя кадры: вучні на ўроку цёпла апранутыя, настаўнік закутаны ў адзежыну. У класе, відаць, халадэча!***

***Пра якую ж вучобу можа ісці гаворка?***

***Намеснік міністра адукацыі Аляксандр Купцоў на гэты конт у сваім каментарыі відовішча з Расіі адзначае: "Гэта існая існасць, аксіёма — у класе, лабараторыі павінна быць цёпла"...***

— Каб пазбегнуць такога, неабходна, — падкрэсліў у пачатку размовы **Аляксандр Іванавіч**, — найперш падумаць загадзя пра наступствы зімы. Так, сёлета Мінадукацыі пры падрыхтоўцы школ да асенне-зімовага перыяду 1999-2000 навучальнага года кіравалася пастановаю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб падрыхтоўцы народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да работы ў асенне-зімовы перыяд", прынятай яшчэ ў чэрвені. Органы кіравання адукацыяй, навучальныя ўстановы ўспрынялі дакумент як праграму да дзеяння.

У выніку ажыццяўлення арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемстваў большасць аб'ектаў устаноў адукацыі была падрыхтавана да асенне-зімовага перыяду яшчэ напачатку новага навучальнага года. У вызначаны тэрмін былі завершаны работы па рамонту ацяпляльных кацельняў, цеплатрас, сістэм ацяплення, гарачага і халоднага водазабеспячэння, вентыляцыі, дахаў.

Прадметна садзейнічалі справе створаныя аператыўныя групы па каардынацыі правядзення перадзімовых падрыхтоўчых работ.

**— Аляксандр Іванавіч, на які від паліва школьныя кацельні арыентуюцца?**

— Па прыкладу папярэдніх гадоў, працягваюцца работы па пераводзе кацельных школ на выкарыстанне цвёрдых мясцовых відаў паліва. Так, вугаль, які дорага абыходзіцца, замяняецца торфабрыкетам, дровамі, адходамі дрэваапрацоўкі. Такая практыка ўласціва для кацельняў сельскіх навучальных устаноў Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласцей.

Што гэта дае? У выніку прымаемых мер патрэбнасць кацельняў устаноў адукацыі ў новым ацяпляльным сезоне ў параўнанні з мінулым зменшылася ў вугалі на 32772 т, у мазуце — на 457 т. Выкарыстанне дроў вырасла на 5700 куб.м, а торфабрыкету — да 27 тысяч тон.

Усё шырэй у кацельнях сельскіх школ выкарыстоўваюцца адходы дрэваапрацоўчай прамысловасці, санітарнай высечкі лесу і г.д.

Напрыклад, у школах Смалявіцкага раёна Мінскай вобласці (загадчык аддзела адукацыі райвыканкама В.І.Герасімчык) назапашаны вопыт выкарыстання ў кацельнях школ мясцовага цвёрдага паліва. Аўтаномныя кацельні Клейніцкай, Куркоўскай, Пятровіцкай сярэдніх, Задамлянскай базавай школ у асноўным задзейнічаны на дровах, а ўвогуле ў раёне загадзя парупіліся і аб нарыхтоўцы вугалю. Пры дэфіцыце фінансавых сродкаў на набыццё паліва тут прынялі ўсе захады, каб назапасіць неабходную колькасць яго.

**— Калі ўжо зайшла размова пра фінансаванне ацяплення, то ці ёсць у сувязі з гэтым якія-небудзь складанасці?**

— На вялікі жаль, ёсць. Толькі запазычанасць на пачатак асенне-зімовага перыяду ўстановамі адукацыі мясцовага падпарадкавання, фінансуемых за кошт сродкаў мясцовага бюджэту па аплаце за ацяпленне, склала 3752 млн.руб., за прыродны газ — 195 млн.руб., за электрычную энергію — 1496 млн.руб., за цвёрдае паліва — 490 млн.руб.

Пакуль не пазбавіліся запазычанасці ўстановы адукацыі і рэспубліканскага падпарадкавання.

**— Ці ўплывае, скажам, на тэмпературу ў класных пакоях перавод калгасамі і саўгасамі кацельняў, задзейнічаных і на школы, з іх балансу на баланс аддзелаў адукацыі райвыканкамаў?**

— Не ўплывае. Сапраўды, у параўнанні з мінулым ацяпляльным сезонам іх колькасць павялічылася на 157 адзінак. Недахоп вугалю кампенсуюць дровы, торфабрыкет, адходы санітарнай ачысткі лесу, якія адпускаюцца без папярэдняй аплаты.

**— Аляксандр Іванавіч, ці можа ў такім разе ісці размова пра эканомію паліўна-энергетычных рэсурсаў?**

— Міністэрства адукацыі распрацавала і ажыццяўляе праграму па энергазберажэнні. Яе мерапрыемствы склалі аснову аналагічных абласных і Мінска праграм.

За тры кварталы сёлетняга года на выкананне энергазберагальных мерапрыемстваў за кошт сродкаў мясцовага і рэспубліканскага бюджэтаў, інавацыйнага фонду канцэрна "Белэнерга" выкарастана 775 млн.руб., пры гэтым сэканомлена паліўна-энергетычных рэсурсаў больш чым на 41 млн.руб. Эканамічны эфект ад выкарыстання кацельнямі школ адходаў дрэваапрацоўкі, санітарнай ачысткі лясных масіваў — відавочны. Напрыклад, калі летась гэта дазволіла сэканоміць 12,5 млрд.руб. (да дэнамінацыі), то сёлета толькі за паўгода — 11,4 млн.руб.

Прадаўжаецца аснашчэнне ўстаноў адукацыі прыборамі ўліку расходавання і аўтаматычнага рэгулявання цеплавой энергіі. На пачатак новага навучальнага года ўстаноўлены 666 цеплалічыльнікаў, 225 расходамераў гарачай і халоднай вады, 231 рэгулятар цяпла.

Прадаўжаецца замена ў кацельных устарэлых катлоў на больш эканамічныя — з каэфіцыентам карыснага дзеяння 85 — 90 працэнтаў.

**Гутарыў Уладзімір НОВІК.**

## Асяродак дабра і ўтульнасці



***Міністэрства адукацыі і Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М.Танка правялі рэспубліканскі конкурс "Кіраўнік дашкольнай установы XXI стагоддзя". Кожная з абласцей была прадстаўлена двума педагогамі-кіраўнікамі, у тым ліку адным — горад Мінск.***

У прывітальным слове міністр адукацыі Васіль Іванавіч Стражаў пажадаў удзельнікам конкурсу гарачай барацьбы і выказаў надзею, што творчае спаборніцтва будзе праходзіць і ў XXI стагоддзі.

Праекты ўдзельнікаў былі рознымі. Частка з іх зводзілася да добрага фінансавання, павышэння адукацыйнага ўзроўню і амаладжэння саставу кіраўніцкіх работнікаў, а таксама да фантастыкі — да заработнай платы ў пяць тысяч долараў у месяц.

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу пераможцы, яго прызёры і ўдзельнікі пагадзіліся адказаць на адно і тое ж пытанне карэспандэнта: "Якім вы бачыце кіраўніка ў новым тысячагоддзі ў сувязі з новымі канцэпцыямі ў дашкольнай адукацыі?". Вось як яны адказалі:

Алена Яфімаўна Арол, пераможца конкурсу, загадчыца ясляў-сада № 89 Гродна, стаж кіраўніка — два гады:

— Самае галоўнае — у працы кіраўнік дзіцячага сада павінен абапірацца на людзей, якія вакол яго, шукаць да іх падыходы. Іх дасягненні і поспехі толькі надаюць сілы кіраўніку.

Ірына Юр'еўна Караніна, другое месца, загадчыца дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці № 90 Гродна, стаж кіраўніка — дзесяць гадоў:

— Я бачу кіраўніка XXI стагоддзя як патэнцыяльнага лідэра, творчага, актыўнага прафесіянала, які здольны сабраць вакол сябе калектыў аднадумцаў-прафесіяналаў.

Наталля Васільеўна Новікава, трэцяе месца, загадчыца дзіцячага сада № 30 Мазыра, стаж кіраўніка — сем гадоў.

— Кіраўнік XXI стагоддзя — гэта чалавек са сваёй грамадзянскай пазіцыяй, адданы сваёй справе, які любіць дзяцей і гатовы прыйсці ім на дапамогу. Але для таго каб аказаць дзейсную дапамогу дзіцяці, неабходны прафесіяналізм, прычым вельмі высокі.

Вольга Аляксандраўна Ульянава, удзельніца конкурсу, Цэнтр развіцця дзіцяці Баранавічаў, стаж кіраўніка — дзесяць гадоў:

— Асабіста мяне як кіраўніка вельмі радуе паяўленне ў Рэспубліцы Беларусь такіх асноўных дакументаў па дашкольнай адукацыі, як канцэпцыя дашкольнай адукацыі, праграма яе рэалізацыі, дзяржаўны стандарт і нацыянальная дзяржаўная праграма "Пралеска". У кіраўніка дашкольнай установы ў адпаведнасці з гэтымі дакументамі паявіліся дзве новыя функцыі. Гэта задавальненне асобасных патрэбнасцей выхаванцаў і іх сем'яў і функцыя ўкаранення новых тэхналогій.



Пры падвядзенні вынікаў конкурсу начальнік упраўлення Міністэрства адукацыі Тамара Мацвееўна Карасцялёва сказала:

— Ідучы ў XXI стагоддзе, мы разумеем, што зберaглі сістэму дашкольнага выхавання, захавалі ўсё тое лепшае, што зрабілі нашы папярэднікі.

У нашых дзіцячых садах няма рэжыму, няма зон для дзяцей, а ёсць гармонія выхавацеляў і кіраўнікоў, кіраўнікоў і дзяцей. Лічу, што ўсе са мной пагодзяцца. Асяродак дабра і ўтульнасці, дзе ёсць здароўе, радасць, задавальненне ад жыцця — такі наш дзіцячы сад.

У новым годзе жадаю ўсім удзельнікам конкурсу і тым, хто працуе ва ўсіх дашкольных установах, міру, дабрыні, здароўя і шчасця. А яшчэ — любіць дзяцей і быць любімымі.

**Мікалай БУДЧАНІН, фотакарэспандэнт часопіса "Пралеска" (дашкольнае выхаванне).**





